*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 22(78) ◈ 3 чэрвеня 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## Поступ тыдня

1 ЧЭРВЕНЯ ПРАЙШОЎ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ.

*НЯДАЎНА ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ АГЕНЦТВЫ ПАВЕДАМІЛІ, ШТО ВАТЫКАН УСТАНАВІЎ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ з Малдовай, Грузіяй, Арменіяй і Азербайджанам, а раней — з Расіяй, Украінай, Латвіяй, Літвой і Эстоніяй. Чаму Ватыкан абмінуў сваёй увагай Беларусь?*

У БЕЛАРУСІ СТВОРАНА СУМЕСНАЕ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «БЕЛПАК». Кошт праекта — 100 мільёнаў долараў. Прадпрыемства будзе выпускаць пластыкавыя бутэлькі для прахаладжальных напояў. Першая партыя двухлітровых бутэлек з'явіцца восенню. Што ж, бутэлькі незалежнай Беларусі таксама патрэбны, але...

*30 МАЯ Ў МЕНСКУ ПРАЙШЛО традыцыйнае свята горада. На гэты раз яно было прысвечана 925-годдзю першага пісьмовага ўпамінання пра нашу сталіцу.*

**ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ І ЎЗАЕМАДЗЕЯННІ паміж КДБ Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Казахстан. У дакуменце прадугледжана аказанне дапамогі работнікам КДБ — беларусам, якія знаходзяцца ў Казахстане: выплата пенсій, грашовых дапамог, выдзяленне жылля. Гэта звычайнае сяброўства спецслужб ці што іншае?**

*У Глыбоцкім раёне ўсе 39 школ сталі беларускамоўнымі. Гэта воля бацькоў, якія хочуць, каб іх дзеці ведалі родную мову.*

**Перамены ў грамадскім жыцці РБ прыйшлі і на яе пагранзаставы. Цяпер яны не з'яўляюцца часткай Заходняй пагранічнай акругі. У Менску створана свая структура кіравання аховай Рэспублікі Беларусь.**

*Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч выбраны членам-карэспандэнтам міжнароднай інжынернай акадэміі па спецыяльнасці «Эканоміка». За якія заслугі?*



Вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу ўручыў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Джанлука Берцінета.

## Пастар з Таронта Юрка Рапецкі: «Беларускія евангелісты разумеюць мяне»

*Стар. 2—3*

## Пякучы боль наш, Курапаты

*Стар. 4*

## ПАД СЦЯГАМ АДРАДЖЭННЯ

У Жлобіне ў мясцовую арганізацыю ТБМ імя Ф. Скарыны поўным складам увайшлі прадстаўнікі (усяго — адзінаццаць чалавек) рэгіянальнай рады Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.

Сябры ТБМ спадзяюцца, што гэты крок у значнай ступені актывізуе дзейнасць суполкі, зрушыць справу адраджэння роднай мовы і культуры.

Акрамя прадстаўнікоў згаданай партыі, у ТБМ увайшлі былыя камуністы, сацыялісты і беспартыйныя. З гэтага відаць, што ў Жлобіне людзі шукаюць шляхоў да паяднання і кансалідацыі сіл. Галоўная іх задача — імкненне дапамагчы народу адчуць сябе свядомай нацыяй.

**Мікола ШУКАНАЎ.**
г. Жлобін.

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Яшчэ адзін крок насустрач нацыянальнай культуры зрабіла праваслаўная царква, упершыню па-хрысціянску адзначыўшы дзень памяці вялікага паэта і грамадзяніна Максіма Багдановіча.

25 мая ў менскай Свята-петрапаўлаўскай царкве была адслужана ўрачыстая паніхіда на беларускай мове. Правёў службу настаяцель храма айцец Георгій Латушка, які паведаміў прысутным, што з гэтага часу ў гэты дзень вернутая вернікам царква заўсёды будзе несць вечную памяць Максіму Багдановічу.

На паніхідзе прысутнічалі вядомыя дзеячы навукі і культуры Беларусі. Служба закончылася беларускім рэлігійным гімнам «Магутны Божа». Былі схілены нацыянальны сцяг і харугва з гербам «Пагоня».

Да помніка Багдановічу, што ля опернага тэатра, ускладзены кветкі.

26 мая ля «Беларускай хаткі» на Рабкораўскім завулку, дзе з кастрычніка 1916 па люты 1917 гг. жыў і працаваў Максім Багдановіч, а цяпер знаходзіцца філія музея паэта, быў адкрыты помнік Багдановічу. Яго выканаў скульптар Уладзімір Слабодчыкаў.

**Абмяркоўваем праект Канстытуцыі**

## ЦІ ЗАГУЧЫЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА Ў НАШЫХ СУДАХ?

Паважаная рэдакцыя! Хацеў бы прыцягнуць гаворку пра моўныя пытанні ў праекце Асноўнага закона нашай суверэннай дзяржавы. Як і М. Рабека («Наша слова» ад 15 красавіка г. г.), выкажу свае адносіны да варыянта 137-га артыкула.

Шчыра кажучы, сумна становіцца, калі чытаеш гэты варыянт. Ён, нагадаю, дапаўняе палажэнне праекта Канстытуцыі БССР аб тым, што судаводства ў рэспубліцы вядзецца на беларускай мове «ці на мове большасці насельніцтва дадзенай мясцовасці». На першы погляд, у такім падыходзе нічога дрэннага няма. Але ж каму не вядома, што тая большасць, пра якую тут гаворыцца, скрозь і ўсюды не размаўляе па-беларуску. Таму я перакананы, што калі пройдзе гэты варыянт, то яшчэ доўга ў нашых судах не будзе гучаць дзяржаўная мова.

Дарэчы, аўтары гэтага артыкула Закона не з'яўляюцца першапраходцамі. Яны яго спісалі з адпаведнага артыкула Канстытуцыі БССР, якая была прынята яшчэ ў 1978 годзе. Хочацца спытаць: ці многа разоў за мінулыя 14 гадоў у судах рэспублікі справы разглядаліся на беларускай мове?

І сёння некаторыя нашы парламентарыі не жадаюць, каб хутчэй адраджалася мова таго народа, ад імя якога яны выступаюць з самай высокай трыбуны. І тут прыгадваюцца радкі аднаго калектыўнага паэтычнага твора, які мы, школьнікі перадваенных гадоў, вучылі назубок:

Беларускую мову трымалі ў загоне,
Каб народ не пазбыў нематы і бяды...

Тут аўтары, як можна здагадацца, маюць на ўвазе дарэвалюцыйны час. Не дзіўна, што тагачасныя ўладатрымальнікі былі вельмі зацікаўлены, каб беларускі народ маўчаў, быў нямы як рыба. Ну, а каму і чаму зараз выгадна трымаць у загоне мову, абвешчаную дзяржаўнай?

Хочацца спадзявацца, што варыянт 137-га артыкула будзе Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь адхілены.

**Г. ЛАГУНОВІЧ,**
ветэран вайны,
афіцэр у адстаўцы.
г. Менск.

# З рэдакцыйнай пошты



## Народная традыцыя аднаўляецца

26 красавіка праваслаўныя ўсяго свету святкавалі Вялікдзень. «Хрыстос уваскрос!» — гучала і на нашай роднай Беларусі. Са старажытных часоў дайшоў да нас народны звычай, калі па хатах хадзілі валачобнікі, віншавалі жыхароў з гэтым святам, спявалі песні ў гонар Хрыста, жадалі шчасця гаспадарам, да якіх завітвалі.

Вось і ў гэтым годзе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Баранавічах паладзіла такі паход, у якім я ўдзельнічаў упершыню.

Ні дождж, ні даволі халоднае надвор'е не спынілі валачобнікаў. З вясёлым святочным настроем рушылі яны ў першы дзень Вялікадня пасля абеду па вуліцы горада. Хто ж яны — валачобнікі? Людзі рознага ўзросту і розных прафесій: выхавацелі дзіцячых садкоў, настаўнікі, мясцовыя мастакі, рабочыя, эканамісты і іншыя. Іх аб'яднала імкненне да адраджэння беларускай культуры і мовы праз традыцыі.

Рэй вяла спадарыня Тамара Карлінская, маладая энергічная жанчына з прыроджанай беларускай смяшынкай. Уваходзячы ў дом, пасля абавязковага «Хрыстос уваскрос!» спявалі песню рэлігійнага зместу, затым — песні гаспадарам, дзяўчыне «на выданні», хлопцу, што меціць у жаніхі, і г. д. Пасля ішлі віншаванні. У гэтых словах — прастата, шчырасць, добразычлівасць і заўсёды крыху гумару, як, напрыклад, у пажаданні старым людзям ясных вачэй, мяккага хлеба, пуховай пасцелі і жыцця без кійка да ста гадоў. Або ў віншаванні маладзіцы «на кругласць, на гладкасць, на капу сыроў, на дзевяць сыноў, а на дзесятую — дочачку».

Па тым, як людзі прымалі валачобнікаў, можна сказаць, што яны не забыліся пра свае святы, пра свае нацыянальныя традыцыі. Наперабой запрашалі ў кватэры, спявалі разам, у некаторых нават з'яўляліся слёзы на вачах ад радасці, што растаптаная традыцыя вяртаецца. І што характэрна, валачобнікаў шчодра абдорвалі. Значыць, яшчэ не ўсё страчана, і наша задача — будзіць у людзях людскасць, а праз гэта — адраджаць і мову нашу, ледзь не забытую, і культуру нашу, амаль забітую, і свядомасць, амаль зруйнаваную.

Няхай нам цяжка, няхай нас цяпер не так шмат, але калі не мы будзем рабіць гэтую пачэсную справу, то хто?

**Анатоль ІВАНОЎСКІ,**
**рабочы аўтаагрэгатнага завода.**
**г. Баранавічы.**

## Пакуль не знайшлі сабе начальніка

У Бабруйску знікла ТБМ. Была Першамайская суполка, але яе голасу так і не пачулі. Застаўся яшчэ клуб «Гоман», дзе збіраецца невялікая колькасць прыхільнікаў роднага слова. Але ў апошні час перасталі выдаваць ягоную газету. Ды і наогул гарадскія ўлады чакаюць не дачакаюцца, пакуль і «Гоман» канчаткова сціхне.

На старонках газеты «Бабруйскае жыццё» журналіст Л. Кулявец выказваў думку аб стварэнні грамадскага ТБМ. Актывісты паспрабавалі дамовіцца аб згуртаванні, але справа далей перамоў не пайшла.

У чым прычына? Няма каму ўзначаліць. Дзіва свету: дырэктараў, міністраў, розных брокераў Бабруйск даў, а вось старшыні гарадскога ТБМ пакуль не знайшлося! Але будзем спадзявацца, што наш горад вылучыць у бліжэйшы час і такога лідэра. Тым больш, што прыхільнікаў беларускай мовы ў нас нямала, а некаторыя неаднаразова ахвяравалі і ўласныя сродкі на адраджэнне беларускай мовы.

**Мікалай ВЯРЫНСКІ.**
**г. Бабруйск.**

## WIS

2 мая ў Брэсцкім гарадскім парку культуры і адпачынку аб'яднанне «Стары горад» і краязнаўчы музей наладзілі для брэстаўчан невялікую выставу. На ёй экспанаваліся матэрыялы па гісторыі Брэста, фотаздымкі старога горада, планы горада і шматлікіх касцёлаў, цэркваў і кляштараў, што былі знішчаны пры будаўніцтве фартэцыі. Аб'яднанне «Стары горад» падрыхтавала і правяло гульню «Поле цудаў», віктарыну па гісторыі Брэста. На вялікі жаль, веданне гісторыі свайго горада ў брэстаўчан аказалася вельмі слабым. Тым не менш, за кожны правільны адказ пераможцы атрымалі прызы — кнігі па гісторыі.

*Канферэнцыі*

## Нацыянальны шлях да дэмакратыі

**У міжнародным маладзёжным цэнтры «Юнацтва» прайшла трохдзённая канферэнцыя «Шляхі пабудовы дэмакратычнай дзяржавы». У ёй удзельнічалі госці з краін былога СССР, а таксама прадстаўнікі посткамуністычных дзяржаў Еўропы — Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі. Усе яны ўваходзілі ў міжнародны каардынацыйны цэнтр «Дэмакратыя і незалежнасць». Арганізатарам канферэнцыі стала Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі.**

**Што ж турбуе і непакоіць сёння нацыянал-дэмакратаў Беларусі, што прымушае іх яднацца з дэмакратычнымі рухамі іншых краін? На гэтае пытанне і адказвае старшыня НДПБ Анатоль Астапенка:**

**— Канферэнцыю мы вырашылі правесці даўно...**

**Пакуль што і ў нас, на Беларусі, і ў іншых краінах сітуацыя складваецца так, што многія справы, распачатыя дэмакратамі, з месца не кранаюцца. Прычына — кансерватыўнасць парламента, засілле былых камуністаў у розных дзяржаўных структурах. Толькі аб'яднаўшыся, мы зможам нешта зрабіць, зможам прыцягнуць увагу ўсяго свету да посткамуністычных дзяржаў.**

**— Спадар Анатоль, НДПБ даўно ўжо выступіла з ідэяй суда над камунізмам, над камуністамі...**

**— Хутчэй гэта павінен быць суд над камуністычнай ідэалогіяй. Хаця не трэба быць лібераламі ў дачыненні да многіх адыёзных постацей... Якраз на канферэнцыі «Шляхі пабудовы дэмакратычнай дзяржавы» і вялася гаворка пра стварэнне камітэтаў па падрыхтоўцы такога суда. Хопіць нам мірыцца з тым, што і сёння, як і ўсе апошнія дзесяцігоддзі, Беларусь застаецца найбольш трывалым асяродкам камунізму.**

**На канферэнцыі было прынята камюніке, дзе, у прыватнасці, адзначана, што ўзорам дэмакратычнай барацьбы з парламентам на Беларусі з'яўляецца падрыхтоўка да правядзення рэферэндуму. Вядзецца гаворка і пра палітычную сітуацыю ў межах былога СССР. Падкрэслена, у прыватнасці, што СНД — мёртванароджанае «дзіця». Сваю ідэю цывілізаванага развалу СССР новае дзяржаўнае ўтварэнне вычарпала. Удзельнікі канферэнцыі шмат гаварылі пра магчымасць паяднацца ў Чарнаморска-Балтыйскі Саюз. Але калі і ўтворыцца такая супольнасць, то яна павінна мець на ўвазе эканамічную еднасць. Што ж да палітычных, нацыянальных умоў, то кожны тут павінен адчуваць сябе гаспадаром.**

**Кіраўнікі нацыянальна-дэмакратычных рухаў розных краін прынялі рашэнне аб рэалізацыі праекта «Міжнародны нагляд». Гэтая ідэя скіравана на ажыццяўленне грамадскага кантролю за працэсамі дэмакратызацыі ў дзяржавах былога СССР.**

**Наступная рабочая сустрэча ўсіх, хто ўваходзіць у цэнтр «Дэмакратыя і незалежнасць», адбудзецца ў Маскве 19 жніўня, якраз у гадавіну жнівеньскага путчу.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Спорт*

## Першы нацыянальны чэмпіянат Беларусі

Пачаўся першы нацыянальны чэмпіянат Беларусі па футболу. Аднак дагэтуль дыктары на стадыёнах гавораць на мове чужой дзяржавы, рэклама матчаў, футбольныя праграмкі і іншае робіцца на расійскай мове. Прыемнае выключэнне тут — Брэст, дзе ўсё гэта робіцца па-беларуску. Пачатак жа быў пакладзены яшчэ ў канцы мінулага сезона.

А ў беларускай сталіцы ды ў іншых гарадах Беларусі, мабыць, усё яшчэ думаюць, што нашыя фаны настолькі неразумныя, што не разумеюць, хто такі «паўабаронца» і што такое «перамога».

# Пастар з Таронта Юрка РАПЕЦКІ:

***Часты госць беларускіх евангелістаў — пастар з Таронта Юрка Рапецкі. Яго бацькі шмат гадоў назад эмігрыравалі з Беларусі. Юрка нарадзіўся ў Германіі. Калі будучаму пастару было толькі два гады, бацькі вырашылі выехаць у Канаду. Пра адносіны Рапецкіх да беларускай мовы, пра ролю рэлігіі ў зберажэнні роднага слова і ідзе гаворка нашага карэспандэнта з канадскім госцем.***

**— Спадар Юрка, ці не галоўны сёння наш клопат — пра адраджэнне роднай мовы? Як вы лічыце, зыходзячы з асабістых уражанняў, ці ёсць будучыня ў беларускага слова, ці загучыць яно з вуснаў кожнага беларуса?**

— Ведаеце, я разумею ваш песімістычны настрой. Адсутнасць нацыянальнай самасвядомасці ў людзей Беларусі адчуваецца ледзь не на кожным кроку. Вось і я падобны да чужаземца не таму, што прыехаў з Канады, а таму, што гавару па-беларуску. Амаль усё наша евангелісцкае брацтва гаворыць у Менску па-расійску. Калі выступаю з казаннямі, то часам бачу ў вачах сваіх слухачоў здзіўленне, непаразуменне. А як завяршаю гаварыць казанне, то да мяне падыходзяць браты і сёстры. Гавораць прыкладна такое: «Гораздо лучше было бы, если бы вы говорили по-русски... В уме мне (нам) нужно перевести сказанное вами на русский...» І вось аднойчы, калі ў чарговы раз да мяне звярнуліся з падобнай заўвагай, пажылая жанчына, якая была сведкай размовы, запярэчыла: маўляў, трэба прызвычайвацца, бо мы жывём на Беларусі.

Дык вось, калі сярод людзей з'яўляецца разуменне важнасці, месца, ролі роднага слова ў жыцці, менавіта гэта шмат пра што гаворыць. І, безумоўна ж, прымушае зазіраць у будучыню з большым аптымізмам.

**— Канешне ж, бліжэй за ўсё вам жыццё эміграцыі. А як, якім чынам захавалася родная мова ў асяродку замежных беларусаў?**

— Па-першае, не трэба ідэалізаваць. Вось і ў Канадзе, да прыкладу, многія беларусы даўно ўжо парабіліся ўкраінцамі, рускімі. Яно ў некаторай ступені і зразумела. Сама Канада, мясцовае насельніцтва найболей ведаюць пра Расію і расійцаў, пра ўкраінцаў.

Але ж і свядомыя беларусы імкнуцца не згубіцца. Што вызначае свядомасць нашага асяроддзя на Захадзе? Мы думаем і дбаем пра беларускі народ, пра краіну Беларусь, пра беларускую мову. Ініцыятарамі многіх добрых спраў з'яўляецца Задзіночанне беларусаў у Канадзе. Мы святкуем важныя даты ў гісторыі Беларусі, наладжваем святочныя імпрэзы. Імкнёмся захоўваць свой уклад жыцця. Усё гэта і спрыяе захаванню, зберажэнню роднага слова.

**— Да таго ж, відаць, дапамагае і прысутнасць беларускага друкаванага слова?**

— Так. Я асабіста чытаю «Літаратуру і мастацтва», «Наша слова», часопісы «Полымя» і «Маладосць». З эмігранцкіх жа выданняў імкнуся не прапускаць ніводнага нумара «Беларуса» і «Беларускага голасу».

Мяне турбуе і тое, каб больш рэлігійнай, духоўнай літаратуры прыходзіла да чытача на роднай мове. У свой час наша брацтва выдавала ў Канадзе бюлетэнь евангелістаў. Рабіў гэтую справу брат Панцэвіч. А брат Данііл Ясько падрыхтаваў і выдаў спеўнік «Хрысціянскія гімны». Канешне ж, па-беларуску. Клопат з гэтым спадар Ясько меў вельмі вялікі. У зборнік увайшлі пераклады з нямецкай і англійскай моў. Дарэчы, для нас, евангелістаў, спевы маюць большы сэнс, чым для іншых вернікаў. Праваслаўныя спяваюць на стараславянскай мове. Мы ж надаём вялікае значэнне зместу.

**— Спадар Юрка, відаць, і ў вас асабіста быў нейкі штуршок, што дапамог захаваць сваю еднасць з родным словам... Усё ж такі дом, сям'я, знаёмыя-беларусы не могуць ахаваць ад знешняга ўплыву.**

— Каб адказаць на гэтае пытанне, пачну здалёк. Нягледзячы на беларускасць маёй сям'і, многіх нашых знаёмых, я прайшоў свой нялёгкі шлях да разумення і пазнання роднага слова. І дзякаваць Богу, мне пашчасціла на гэтым шляху мець добрыя і вартыя сустрэчы.

 

# Мова — глеба пад дрэвам нацыі

З нагоды надрукаванай у «Нашым слове» (№ 6, 1992) анкеты па некаторых пытаннях беларускай арфаграфіі хачу выказаць свае меркаванні.

Глеба моўная, дадзеная ўсявышнім, у нас добрая. Як казаў Адам Міцкевіч, яна самая старажытная сярод усіх славянскіх і дасканала распрацаваная. Ганарыцца толькі. А мы?.. Дапусцілі такі гвалт над ёй, самі псавалі моўную глебу да непазнавальнасці, да непрыдатнасці. Нацыянальнае дрэва на такім асіміляваным субстраце далей не магло іспаваць, трухлела, сохла.

Нельга не ўлічваць пры гэтым пізкі ўзровень нашай нацыянальнай свядомасці. Нагадваецца ганебны прыклад, калі пры разглядзе ў Вярхоўнай Радзе (Савеце) гістарычнай беларускай сімволікі і зацверджанні яе ў якасці дзяржаўнай некаторыя народныя дэпутаты патрабавалі ўсенароднага апытання. Па моўных пытаннях тым больш недапушчальны рэферэндум. Ці добра, мякка кажучы, пытацца ў згубіўшага сваю мову чалавека (страшна і падумаць, што ў калецтве — «безъязыкости» — цэлы народ), як лепш пісаць: *свіран* ці *сьвіран*, *цвік* ці *цьвік*,— калі ён не толькі не вучыў «тарашкевіцы», не чуў неасіміляванага беларускага маўлення, а і забыўся пра існаванне карэнных беларускіх слоў, узброіўшыся русізмамі.

На маю думку, трэба вярнуцца да зыходнай (архаічнай, як кпяць некаторыя) формы мовы — гэтак званай «тарашкевіцы», у якой на той час была найбольш поўна ўвасоблена і адлюстравана беларускамоўная спецыфіка з гарманічным спалучэннем усіх дыялектных адгалінаванняў.

А наконт архаічнасці... Далёка не ўсё адмоўнае яна нясе. Ёсць створанае продкамі, вартаснае і сёння, павучальнае. Усё лагічна і мэтазгодна толькі ў прыродзе. А ўсё прыроднае — архаічнае. Мы, людзі, павінны разумець і бачыць прыродную, натуральную мэтазгоднасць, адпаведнасць. Сістэма хімічных элементаў Дз. Мендзялеева і раслінаў К. Лінея жыццёвыя будуць і заўтра, паколькі яны заснаваны на натуральных прыкметах класіфікуемых аб'ектаў.

Нармальны працэс развіцця, удасканалення правапісу і граматыкі беларускай літаратурнай мовы спыніўся і прыняў адваротны характар пасля сумна вядомай жнівеньскай пастановы СНК БССР 1933 года. Тады ў народа і не спыталі пра яго думку. А цяпер, каб вярнуць належнае, трэба пытацца ў яго ж? Ці правільна гэта? Ці ж справядліва?

Паглядзім уважліва, хто і як карыстаецца рэальна існуючымі сёння правапісамі беларускай мовы.

Паслярэформавым (т. зв. «наркамаўкай») ад 1933 года карыстаюцца афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі рэспублікі (а беларускамоўная частка іх мізэрная ў параўнанні з расійскамоўнай) і дзяржаўная адукацыя (таксама складае мізэр і захавалася на ўзроўні малакамплектных сельскіх школ ды, нярэдка, чыста фармальна; зараз сітуацыя крыху зрушваецца).

Паслярэформавы правапіс лагічны ў кантэксце асіміляцыі і збліжэння беларускай мовы з расійскай. Значыць, ён штучны. Далейшая практыка яго небяспечная для будучыні нашай нацыі.

Цяпер звернем увагу на дарэформавы правапіс («тарашкевіцу»). Ім карыстаюцца: беларускі замежны друк, радыё; уся свядомая беларуская эміграцыя; амаль уся незалежная (нефармальная) беларуская прэса (безумоўна, не без уплыву сучаснага); пераважная большасць прыхільнікаў нацыянальнага Адраджэння на Беларусі.

Такім чынам, традыцыя выкарыстання «тарашкевіцы» захавалася. Праз гады ізаляцыі і непрызнання яна пацвердзіла сваю жыццяздольнасць, бо грунтуецца на натуральным беларускім гучанні, скіравана на развіццё нацыі.

Захаванне «наркамаўкі» супярэчыць самой ідэі нацыянальнага Адраджэння на Беларусі. Захаваць яе — значыць пагадзіцца з дадзенай у 1933 годзе дзяржаўнай санкцыяй на знішчэнне роднай мовы. Канечне, не варта з парога адхіляць сучасны «наркамаўскі» варыянт беларускай мовы. Яго практыка можа быць карыснай пры дапрацоўцы граматыкі Б. Тарашкевіча.

Для вырашэння моўных пытанняў найбольш удалы момант (і палітычна важна, і эканамічна мэтазгодна, і справядліва), лічу, быў падчас увядзення ў дзеянне Закона аб мовах. «Заднім розумам? Менавіта тады, у жніўні 1990 года мною быў накіраваны разгорнуты (па ўзроўні, вядома, уласнай дасведчанасці) ліст у прэзідыум АН Беларусі з шэрагам прапаноў, у тым ліку аб тэрміновай падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах мовы. Аналагічнага зместу публікацыі былі надрукаваныя ў «Навінах Беларускай акадэміі» (№ 33, 1990) і ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (№ 35, 1990). Рэакцыяй на іх было пасяджэнне Вучонай рады ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа. Аднак змест шырокага пытання ў адказе вучоных інстытута (гл. «Навіны БА», № 40, 1990) звузіўся да беларускай лацінкі. (Тады лацінка была чарговым пудзілам для нашай нігілізаванай грамадскасці, нават акадэмічнай, як і «тарашкевіца»). Але тым пацвердзілі факт існавання розных варыянтаў беларускай пісьмовай графікі: кірыліцы і лацінкі, што раней пільна замоўчвалася. Мовазнаўцам з улікам думкі тых, хто мовай карыстаецца, застаецца зрабіць выбар і ўнармаваць выбраны варыянт.

Адносна пытанняў анкеты.

1. Імкнучыся да моўнага ідэалу (як чуецца — так пішацца), мяккасць зычных трэба паслядоўна пазначаць мяккім знакам, напрыклад, *сьпевы*, *нязьменна*, *ськіва*, *здарэньне*. Тут згодны з пунктамі 10, 12, 14, 16, 18. Але мяккі знак агульнапрызнана — няўдалая літара існуючага алфавіта. Яна «мёртвая». Гэта атавізм у сусветнай моўнай практыцы. Тэхнічна зручней і эканамічна выгадней для змякчэння зычных выкарыстоўваць знак( ' ), як гэта зроблена ў лацінскім варыянце беларускага пісьма.

2. Ёсць правіла: у першым складзе перад націскам замест *е*, *ё* пішацца *я* (пункты 23, 25, 27, 29, 31). Яно, па-мойму, павінна распаўсюджвацца выключна на ўсе словы, у тым ліку і з адмоўямі *не* і *без*. Так лягчэй спасцігаць мову, пісаць.

3. Пункты 40—41. Словы тыпу *узбекскі*, *мазамбікскі* лепш пісаць: *узьбецкі*, *мазамбіцкі*, як і *мастацкі*, *казацкі*.

На маю думку, трэба ўзгадніць яшчэ шэраг не ахопленых анкетай і не адлюстраваных у сучасным беларускім правапісе пытанняў:

1) Пераход злучніка *і* у *й* пасля галосных перад зычнымі, напрыклад, хлеба *й* песьні, зямлі *й* сонца, падумаю *й* зраблю.

2) Ідэнтыфікацыя напісання тэрмінаў замежнага паходжання і геаграфічных назваў, напрыклад: а) *Н. Зэляндыя*, *Галяндыя*, *Ісляндыя* (як і *Фінляндыя)*; б) *пэрспэктыва*, *фэдэрацыя*, *гэрб*, *мэтровы* (як і *мэбля*); в) *сыстэма*, *прэзыдэнт*, *сэмінар*, *сэрвіс* (як і *сэнс*); г) *ідэалёгія*, *фальклёр*, *кляс*, *плян* (як і *лямпа*).

3) Унармаванне сучаснага беларускага правапісу абмяжоўваецца недасканаласцю алфавіта. Гэта і «мёртвая» літара *ь*, і ётаваныя галосныя *е*, *ё*, *ю*, *я*, якія адпавядаюць двум гукам [*йэ*], [*йо*], [*йу*], [*йа*], а таксама няўдалы графічны паказ гукаў *й* ды *ы*. У алфавіце губляецца адлюстраванне такой асаблівасці беларускай мовы, як наяўнасць асобных гукаў *дз* і *дж*. Не паказаны яны асобнымі літарамі і ў прапанаваным варыянце беларускай лацінкі («НС», № 32, 1991). Патэнцыял лацінскага алфавіта ўсё ж дазваляе ліквідаваць і гэты прабел («Навіны БА», № 20, 1991).

Беларуская граматыка, як і арфаграфія, алфавіт, патрабуе не менш глыбокага і дэталёвага даследавання і ўнармавання. І рабіць гэта трэба адначасова.

**Язэп СТАПАНОВІЧ,**
**старшыня Акадэмічнай рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

*Вечарыны, імпрэзы, вернісажы*

## Аляксей МАРАЧКІН: «Паданні і легенды Беларусі»

20 мая 1992 г. у Доме літаратара адбылася вечарына-вернісаж слыннага беларускага мастака Аляксея Марачкіна. У ёй узялі ўдзел вядомыя пісьменнікі, паэты, мастакі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, навукоўцы і іншыя дзеячы беларускай культуры. Тут жа працавала выстава твораў Аляксея Марачкіна з серыі «Паданні і легенды Беларусі».

З віншавальным словам выступілі: рэктар Беларускай Акадэміі мастацтваў Васіль Шаранговіч, народны паэт Рэспублікі Беларусь Ніл Гілевіч, вядомыя беларускія паэты Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў, Раіса Баравікова. Усе яны адзначылі выключны мэтанакіраваны талент мастака, асветлены ідэяй адраджэння нацыянальнай культуры, і пажадалі яму творчых поспехаў, радасцей, а таксама і надалей апраўдваць высокае прызначэнне мастака і чалавека.

На вечарыне гучалі песні ў выкананні беларускай спявачкі Касі Камоцкай.

Напрыканцы вечарыны адбылася прэм'ера дакументальнага тэлефільма «Мара», прысвечанага мастаку. Рэжысёр фільма Уладзімір Арлоў, кінааператар Даніла Хайцін.

Са словамі ўдзячнасці звярнуўся да прыхільнікаў яго таленту Аляксей Марачкін, які заверыў прысутных, што і надалей будзе шчыра працаваць на карысць адраджэння беларускай культуры.

**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# «Беларускія евангелісты разумеюць мяне»

Пераехаўшы з Германіі ў Канаду, мы некаторы час жылі на ферме. Пасля перабраліся ў горад Саскатун. Там я правёў 18 гадоў свайго жыцця. Чатыры з іх прысвяціў універсітэцкай асвеце. У хаце мы гаварылі па-беларуску. Бацька навучыў мяне чытаць кірыліцай — і па-беларуску і па-руску. Ні ў школах, ні ва ўніверсітэтах Канады беларуская мова не выкладаецца. Праўда, кажуць, трохі раней выкладалі ў Таронцкім універсітэце. Цяпер — няма.

Апошні год вучобы ва універсітэце займаўся толькі славістыкай. Пасля перабраўся ў Эдмантан. Там здаў экзамены на званне магістра па расійскай літаратуры. І невядома, як бы склаўся мой жыццёвы шлях, калі б не сустрэча з беларусам Іванам Гукам. Ён запрасіў мяне працаваць на радыё. Пачаў я рыхтаваць рэлігійныя перадачы. Бацька мой да гэтага часу запісваў на беларускай мове казанні. Яго справу даводзіцца працягваць мне... У першыя гады працы меў цяжкасці з беларускай мовай. Дапамог выпадак — знаёмства з беларускім прафесарам, аўтарам кнігі на англійскай мове «Беларусы ў Канадзе», прозвішча якога, на жаль, цяпер не памятаю.

Прафесар заходзіў у наша брацтва, цікавіўся жыццём беларускіх евангелістаў, нашым стаўленнем да роднага слова. Вось я і пацікавіўся, ці можна дзе ўдасканальваць веданне мовы. Прафесар падказаў: побач з вамі жыве спадарыня Пашкевіч, аўтар двухтомнага падручніка «Беларуская мова». Так я стаў наведваць прыватныя курсы беларускай мовы. А спадарыня Пашкевіч распачала рэдагаванне, уважлівую праўку беларускіх евангелісцкіх казанняў.

**— Ваш чарговы прыезд на Беларусь, відаць, мае дачыненне і да адраджэння роднай мовы?**

— Безумоўна. Па даручэнні беларускіх евангелістаў у Канадзе я вёў перамовы з беларускім радыё. Мы хацелі б прапаноўваць свае казанні вернікам Беларусі. Умова з боку Дзяржтэлерадыё перад намі настаўлена жарсткаватая: «Аплочвайце свой час у эфіры. Адна мінута — адзінаццаць долараў». Прызнацца, і для нас гэта немалыя грошы, таму адказ адразу я даць не змог, але спадзяюся, што ў Канадзе мы прыйдзем да згоды — знойдзем сродкі — і на беларускім радыё загучаць евангелісцкія казанні на роднай мове.

**— Спадар Юрка, і вось аб чым яшчэ карціць спытаць. Як вы адносіцеся да існуючага сёння афіцыйнага беларускага правапісу?**

— Вядома, 1933 год адмоўна адбіўся на беларускім правапісе. Я, да прыкладу, як гавару, так і пішу. Калі ўслухацца, то *свет* гучыць *сьвет*, *смерць* — *сьмерць*. Без мяккага знака гэтыя словы гучаць ненатуральна для беларусаў, цвёрда, зусім як у расійцаў.

Да таго ж афіцыйная беларуская мова мае шмат русізмаў. Некаторыя з іх настолькі трывала «ўпісаліся» ў яе, што не ўсе гэта адчуваюць, а на вяртанне роднага, забытага слова рэагуюць, як на нейкую штучнасць або выдумку.

**— Зараз паміж прыхільнікамі афіцыйнага правапісу і адраджэнцкай «тарашкевіцы» вядуцца жорсткія спрэчкі. Дык як быць у гэтай сітуацыі простаму люду?**

— Падчас адной сустрэчы на Беларусі, калі я прачытаў казанне, падыходзіць да мяне пажылая жанчына: «А ці ведаеце вы, што пераклад (?!) ваш памылковы»,— гаворыць яна. Спрабую тлумачыць. Маўляў, не пераклад гэта, а казанне, складзенае па-беларуску. Нічога не жадае слухаць: «Мяккі знак не павінен быць... Не хваліцеся вашай мовай... У нас ёсць свая...» А я перакананы, што мяккі знак павінен быць. І грунтуюцца мае высновы на супастаўленні «тарашкевіцы» з жывой народнай мовай. У беларускіх асяродках Канады яна захавалася.

Але ні ў якім разе не трэба нікога асуджаць. Так навучылі тую жанчыну ці каго іншага — так няхай і будзе. Жорсткасць у тых клопатах не падмога. Дыскусію на гэтую тэму павінны пачаць навукоўцы.

**— Шчыра дзякую за гаворку. Поспехаў вам!**

**Распытваў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



 

*Абітурыентам*

# Перад экзаменам па мове

## *Пунктуацыйныя памылкі*

1. **Адсутнасць косак:** пры зваротку: *Маліся ж бабулька...;* у складаназлучаным сказе: *Пачалася Вялікая Айчынная вайна і Саша Траянава вырашыла вярнуцца ў вёску;* у складаназалежным сказе: *Але чаму мы ўсе гэта зразумелі калі ўжо няма нашых дарагіх...;* пры дзеепрыслоўным словазлучэнні: *Даведаўшыся пра трагічную смерць маці П. Броўка адразу ж паехаў у Польшчу.*

2. **Лішнія коскі:** *І вось у гэты цяжкі, у гісторыі ўсяго народа час, Я. Колас здолеў паказаць...*

Неабходна адзначыць, што многія выпускнікі школ слаба валодаюць сінтаксісам. У большасці работ канструкцыі сказаў спрошчаныя, збедненыя. І пры гэтым многія абітурыенты дапускалі па 8—15 пунктуацыйных памылак: не ставілі знакі прыпынку пры аднародных і адасобленых членах сказа, пры пабочных словах, у канцы сказаў.

## *Граматычныя памылкі*

1. **Неадпаведнасць роду назоўніка:** цяжк*ую* боль, вялік*ай* бол*лю*, высок*ую* насып. Раім пазнаёміцца з пададзенай ніжэй табліцай.

### *Агульныя словы беларускай і расійскай моў, што адрозніваюцца паводле роду*

| Беларускія | | Расійскія | |
|---|---|---|---|
| ахапак | м. р. | охапка | ж. р. |
| боль | —»— | боль | —»— |
| бярлог | —»— | берлога | —»— |
| гусь | ж. р. | гусь | м. р. |
| дроб | м. р. | дробь | ж. р. |
| капыт | —»— | копыто | с. р. |
| мазоль | —»— | мозоль | ж. р. |
| медаль | —»— | медаль | —»— |
| насып | —»— | насыпь | —»— |
| палын | —»— | полынь | —»— |
| подпіс | —»— | подпись | —»— |
| пыл | —»— | пыль | —»— |
| рукапіс | —»— | рукопись | —»— |
| салата | ж. р. | салат | м. р. |
| сабака | м. р. | собака | ж. р. |
| стэп | —»— | степь | —»— |
| таполя | ж. р. | тополь | м. р. |
| туфель | м. р. | туфля | ж. р. |
| цень | —»— | тень | —»— |
| шынель | —»— | шинель | —»— |
| яблык | —»— | яблоко | с. р. |

2. **Неадпаведнасць ліку назоўніка:** У яго на грудз*і* быў...

3. **Няправільныя канчаткі назоўнікаў:** быў у вес*ке*, на пароз*е*, у мястэч*цы*, на шыбені*це*, у цэнтр*е*, перад Андрэ*ям*, два гарнізон*а*, няма грош*аў* купіць хлеба.

4. **Неадпаведныя канчаткі прыметнікаў:** беларуск*аю* мову, спален*ые* вёскі.

5. **Няправільнае спалучэнне назоўнікаў з лічэбнікамі два, тры, чатыры:** Гэты*х* дзве прачытаных кнігі мне вельмі спадабаліся.

6. **Неадпаведныя канчаткі дзеясловаў:** забудз*ім*, разгледз*ем*, дум*ая*, прынос*я*, выпальваю*т*, муча*юць*.

7. **Няведанне сінтаксічных сувязей слоў у словазлучэннях, асабліва кіравання дзеясловаў:** Яму вельмі цяжка ўявіць, як *над ёй здзекваліся.* Усе *смяяліся над ім.* Так Васіль не *ажаніўся на Ганне.*

8. **Неадпаведнасць трывання дзеяслова:** Я яе (кнігу) прачытала з вялікім задавальненнем, яна мне вельмі *спадабаецца.*

9. **Памылкі ў спалучэнні дзейніка і выказніка:** Мала хто думал*і* пра выратаванне.

10. **Няправільнае ўжыванне дзеепрыслоўнага словазлучэння:** *Прачытаўшы гэта апавяданне,* перада мной адкрылася нешта новае, невядомае.

11. **Утварэнне няправільных форм слова:** растлумач*ы*ваць, нераканал*ы*, змагал*ісь.*

12. **Няправільнае вызначэнне межаў сказа:** Даведаўшыся пра смерць Алены Сцяпанаўны, якую фашысты спалілі за сувязь з партызанамі. Паэт доўга не мог узяцца за пяро.

## Агульныя заўвагі па пісьмовых работах і вусных адказах

Адзначаецца малы памер многіх сачыненняў, часам толькі на адну няпоўную старонку, а трэба 2,5—3 (5—6 старонак школьнага сшытка).

Былі выпадкі, калі змест усёй пісьмовай работы або асобных яе частак не адпавядаў тэме. Вось, напрыклад, узор заключэння па тэме сачынення «Вобраз маці-палалянкі ў паэме П. Броўкі «Голас сэрца»:

*Як прыемна, калі маці збірае ў дарогу або сустракае свайго вандраўніка. Дык давайце ж нізка паклонімся нашым дарагім матулям! Бо няма нічога і нікога даражэйшага за маці ва ўсім свеце.*

Некаторыя абітурыенты не знаходзілі патрэбных сінонімаў і замест поўнага прозвішча пісьменніка ўжывалі толькі яго імя, напрыклад: *Пятрусь, Васіль, Якуб, Янка.*

У асобных сачыненнях назіралася неахайнасць у графічным абазначэнні літар: абітурыенты не ставілі кропак над *е* (*ен, заўседы, лес, цеплых*), кропкі над *і*, невыразна пісалі літары *о-а, е-я.* А гэта ўсё ўплывала на ацэнку пісьмовай работы.

Недахопы вусных адказаў можна згрупаваць па наступных праблемах: многія абітурыенты не ўмеюць вызначыць сутнасць пытання, выдзеліць галоўнае. Напрыклад, пры любой фармуліроўцы пытання пачыналі адказ з біяграфіі пісьменніка: сапраўднае прозвішча, дзе і калі нарадзіўся і інш.; не могуць адысці ад зместу падручнікаў, вызначыць свае адносіны да літаратурных герояў, падзей, апісаных у творах; не ўмеюць суаднесці твор з гістарычнай эпохай, адлюстраванай у ім, з часам напісання; аналіз твора падмяняюць пераказам яго зместу; абмежавана ведаюць сучасную прозу; дрэнна арыентуюцца ў сучаснай паэзіі, не могуць назваць асноўныя тэмы, прозвішчы паэтаў, назвы іх кніг.

Трэба адзначыць нізкі ўзровень агульнай літаратурнай адукацыі абітурыентаў. Пераважная большасць маладых людзей не наведвалі літаратурныя музеі горада, не глядзелі спектаклі. Былі выпадкі, калі ацэнка «выдатна» па літаратуры ў атэстаце не адпавядала рэальным ведам выпускнікоў. Напрыклад, абітурыенты не маглі прачытаць ні аднаго паэтычнага твора на памяць, слаба ведалі змест асобных класічных твораў, бездапаможна прасілі дазволу карыстацца зрэстаматыйнай літаратурай.

**Валянціна РАМАНЦЭВІЧ.**

*У свеце слоў*

## Снеданне, абед, вячэра

Пачатак слова *снеданне* фанетычна нагадвае слова *сон* (у сне), ды і само снеданне — пасля сну, раніцою. У гэтым слове корань *-ед-*, а *сн-* — прыстаўка, якая ў старажытнасці мела выгляд *сън-*. А ўвогуле снеданне — ежа, што ўжываецца раніцою.

Слова *абед* вядома яшчэ з XI стагоддзя. «Родзічамі» яго з'яўляюцца дзеяслоў *есці* і назоўнік *ежа.* Утворана яно пры дапамозе прэфікса *аб-* ад кораня *-ед-*.

Першапачаткова слова *вячэра* мела значэнне *ежа ў поўдзень* (старажытнарускае *ужина* азначала *полудень).* Мяркуюць, што паходжанне гэтага слова звязана са словамі *поўдзень* і *сонца, вечарам.* А адсюль — *вячэра.*

**Іван ШПАДАРУК.**

# «Блізкія» — «далёкія»

Аднойчы зычлівы малады інжынер-электронік папрасіў мяне назваць хоць адно беларускае слова, якое не было б падобна ні на расійскае, ні на польскае. На той момант я змагла назваць яму адно ці два. Пасля гэтага мяне не пакідала жаданне ўспомніць больш, і калі згадвала, як радасную знаходку, запісвала:

| | | |
|---|---|---|
| амбар | свіран | сьпіхлеж |
| беседа | гутарка | розмова |
| везде | усюды | вшэндзе |
| государство | дзяржава | паньство |
| деньги | грошы | піенёндзэ |
| жадно | прагна | лапчыве |
| закрыть | зачыніць | замкнонць |
| игрушка | цацка | забавка |
| источник | крыніца | зьрудло |
| кнут | пуга | бат |
| ложь | хлусня | кламство |
| мечтатель | летуценнік | мажыцель |
| молва | чутка | поглоска |
| наружный | вонкавы | зэвнентшны |
| обои | шпалеры | тапэта |
| ответ | адказ | одповедзь |

Даследаванне захапіла. Здагадалася звярнуцца да слоўнікаў. І хоць яны мелі сціплы запас беларускай лексікі (для сярэдняй школы), знайшлося, аж здзівілася, больш за 1200 такіх слоў! Заўважыла, што ў рускай і польскай мовах ёсць словы, якія гучаць ідэнтычна або вельмі падобна, а беларускі адпаведнік — зусім іншы.

Мне здаецца, што чытачам «Нашага слова» таксама цікава будзе задумацца над гэтай моўнай з'явай. Хацелася б прачытаць на старонках «Нашага слова» разважанні філолага на гэтую тэму. Прапаную спіс слоў, якія я адшукала:

| | | |
|---|---|---|
| бесчестить | бэзчэсьціць | няславіць |
| богатырь | богатэр | асілак, волат |
| борозда | брузда | разора |
| боронить | броноваць | скародзіць |
| бредить | брэдзіць | трызніць |
| бутылка | бутэлька | пляшка |
| жалеть | жаловаць | шкадаваць |
| желудок | жолондэк | страўнік |
| замешательство | замешане | збянтэжанасць |
| замысловатый | замысловаты | мудрагелісты |
| запорошить | запрушыць | зацерушыць |
| зевать | зеваць | пазяхаць |
| знаменитость | знаменітосьць | славутасць |
| зной | знуй | спёка |
| зов | зэв | покліч |
| зяблик | земба | берасцянка |
| исполнение | спэлнене | выкананне |
| клок | клак | жмут |
| коптеть | копціць | курэць |
| кролик | крулік | трус |
| кукушка | кукулка | зязюля |
| куцый | кусы | куртаты |
| лемех | лямеш | нарог |
| ленивый | ленівы | гультаяваты |
| лета | лята | гады |
| лопата | лопата | рыдлёўка |
| лохмотья | лахманы | рызманы |
| мрак | мрок | цемра |
| мысль | мысьль | думка |
| мять | мёнць | камячыць |
| неустанный | неўстанны | безупынны |
| обдирать | обдзераць | аблупліваць |
| обещать | обецаць | дакляраваць |
| обнажить | обнажыць | агаліць |
| объятия | об'енця | абдымкі |
| оглашение | оглошэне | абвяшчэнне |
| ограниченный | огранічоны | абмежаваны |
| огромный | огромны | велізарны |
| одевать (ся) | одзеваць (се) | апранацца |
| одолеть | подолаць | асіліць |
| озимь | озіміна | рунь |
| оказать (ся) | оказаць (се) | апынуцца |
| окольный | окольны | абходны |
| ольха | ольха | алешына |
| опоясать (ся) | опасаць (се) | падперазацца |
| острие | остшэ | лязо |
| отворить | отвожыць | адчыніць |
| отец | ойцец | бацька |
| оттиск | одціск | адбітак |
| охранный | охронны | ахоўны |
| пасека | пасека | пчальнік |
| пёс | пес | сабака |
| плесень | плесьнь | цвіль |
| поблажка | поблажка | патуранне |
| погода | погода | надвор'е |
| погребение | погжэбене | пахаванне |
| пола | пола | крысо |
| полагать (ся) | полегаць | разлічваць |
| положение | положэне | становішча |
| потом | потэм | пасля |
| потомок | потомэк | нашчадак |
| представить (ся) | пшэдставіць (се) | адрэкамендавацца |
| пресытить (ся) | пшэсыціць (се) | здаволіцца |
| пропасть | пшэпасьць | прорва |
| рассветать | сьвітаць | днець |
| ремень | жэмень | дзяга |
| родители | родзіцэ | бацькі |

**Яўгенія ЧАПЛІНСКАЯ.**

в. Літва Маладзечанскага раёна.

*(Працяг. Пачатак у №№ 5 — 21).*

**(Каля 25 гадоў, беларуска, тэхнік-архітэктар)**

...Калі ў чалавека не выхавалі нацыянальную свядомасць змалку, гэта можна пабыць і самому, сэрцам. А калі будзе свядомасць — будзе і мова. Каб беларус ведаў сваю сапраўдную гісторыю, была б гэта свядомасць. І не існавала б такой праблемы — моўнай і многіх іншых...

**(Паміж 40 і 50, беларуска, настаўніца мінскай школы)**

...Письму «московского белоруса» цены нет... Потому что он высказал святую правду!.. Её все знают, но почему-то стыдятся говорить о ней...

**(14 гадоў, беларуска, вучаніца VIII класа сярэдняй школы г. Мінска. Ліст складальніку гэтай кнігі)**

Здравствуйте, Олег Андреевич!

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

Свядомасць, гісторыя... Тады будзе і мова...

Сама прайшла праз гэта... І лічу гэта галоўным.

...Паэты пра мову — гэта кранае... А потым уздымаецца праблема. І ўжо праз гэта глядзіш на ўсё астатняе, больш крытычна глядзіш...

...Абстрактна мова не ўспрымаецца як частка душы, як нешта блізкае, роднае... А вось праз музыку слова, праз успаміны дзяцінства... гісторыі...

**(30 гадоў, беларус, мастак)**

Чалавек ёсць носьбіт культуры. Чалавек жа і прадуктар, і спажывец культуры. А мова — асноўны элемент любой культуры, хаця, вядома, і не адзіны.

Мова — крыніца культуры, пачатак усіх пачаткаў, і тут лепш за Ядвігіна Ш. не скажаш. І гэты скарб народны, гэту даніну спрадвечную мы павінны несці з гонарам, з вялікай гордасцю, бо ў гэтым наша моц, наша апора, наш гонар і сцяг. Мы нясём багатую тысячагадовую ношу, але ад гэтага наша спіна не гнецца, а хада ўперад набірае большай упэўненасці.

Што ж да вядомых фактаў цурання народа роднай мовы, то гэта не зусім так. Увесь народ проста нават не ведае пра гэтую праблему, бо правадыры, пастыры так захацелі. Яны першыя адмовіліся — ці то дзеля кар'еры, ці то па непісьменнасці, што сведчыць пра крайне нізкую духоўнасць, маральную і духоўную дэградацыю. Гэты пласт, хоць, магчыма, і ў большасці, але яшчэ не народ. Гэта проста насельніцтва. А народ — гэта князь Усяслаў і князь Вітаўт, народ — гэта Ф. Скарына, гэта Кастусь Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Янка Купала, Цётка, М. Багдановіч, Адам Міцкевіч, М. Глінка, Міхал Агінскі, Браніслаў Тарашкевіч, Мікола Гастэла. Славутых імёнаў беларусаў не пералічыш. Многія з іх прынеслі славу не толькі свайму народу, упісалі залатымі літарамі свае імёны ў гісторыю і культуру іншых народаў.

І тым не менш тэма нашых размоў зусім не дыскусійная. У такім разрэзе пытанне абмеркаванню не падлягае, бо па праблеме мовы дзвюх думак і быць не павінна. Усім жа вядома, што чалавек без крыві жыць не можа, гэта ў фізічных адносінах. Без роднай мовы чалавек — труп духоўны. Калі ж чалавек наўмысна цураецца роднай мовы, гэты чалавек не проста дзікун, амаральны тып, ён здраднік свайму народу. Бо такія разуменні, як мова, маці, Радзіма, — непадзельны. Яны існуюць разам і вечна.

Совсем недавно Вы проводили беседу с учениками восьмых классов в 34-й школе. Вы очень интересно рассказывали о своей книге, и меня очень заинтересовал, даже можно сказать взволновал, вопрос о будущем белорусского языка. Над этим вопросом я задумывалась и раньше, но как-то не так серьёзно. В Минск мы переехали совсем недавно из небольшого белорусского городка. Училась я в русской школе, но общались мы между собой наполовину на белорусском языке. Когда же мы приехали в Минск, дома мне постоянно стали делать замечания: «Привыкай говорить только на русском языке. Не забывай, что живём мы в Минске». И мне приходится отвыкать, но почему, я так и до сих пор не поняла. Ведь Минск — это столица Белоруссии, но, к сожалению, трудно найти здесь человека, говорящего на родном белорусском языке. Наоборот, люди, по-моему, даже стали стесняться своего языка. Попробуй, вставь при разговоре белорусское слово, так на тебя посмотрят такими удивлёнными глазами, что становится неудобно.

Когда я слушала Ваш рассказ, мне вспомнились тяжёлые дореволюционные годы, когда белорусский народ боролся за свой язык, говорить на котором запрещалось. Но почему так люди изменились сейчас?!. Объяснить, понять я этого не могу. Меня просто всё возмущает. Но, по-моему, придёт время, когда люди вспомнят о родном языке и, возможно, вернутся к нему. Ведь правду говорят: «Ценят, когда теряют».

А я полностью, обеими руками, за белорусский язык.

**Ученица 8 кл. СШ № 34.**

**(16 гадоў, беларуска, вучаніца X класа СШ г. Мінска)**

У асноўным у нашай рэспубліцы ўсе гавораць на рускай мове, а не на беларускай. Напэўна, гэта таму, што мы проста з маленства не прывыклі чуць яе.

Наша нацыянальная мова паступова гасне. Я, напрыклад, даволі свабодна магу гаварыць на беларускай мове, але ніколі не гутару на ёй ні дома, ні на вуліцы, ні ў кампаніі — толькі на ўроках у школе. Калі іншы раз вырываецца якая-небудзь фраза або слова на беларускай мове, то часта чуеш смех. А што тут смешнага? Гавораць жа ў Грузіі, Латвіі, Літве на сваіх мовах! Там таксама рэдка ўчуеш рускую мову, як у нас, напэўна, беларускую. Мы проста трацім сваё нацыянальнае характство. І наўрад ці яго магчыма вярнуць.

*(Працяг будзе).*

*Адам БАГДАНОВІЧ*

# ХЛЕБ

***Старонкі старых выданняў адкрываюць нам і «старыя ісціны» — пачаткі народнай мудрасці, этыкі і маралі. Сёння, калі «нашчадкі» топчуць магілы продкаў і аплёўваюць усё, што народ паважаў і шанаваў, старыя выданні асабліва прыцягваюць сваім высокамаральным зместам, чысцінёй духоўных ідэалаў, шчырасцю і пэўнай наіўнасцю погляду на свет. У іх не толькі «перажыткі» светапогляду нашых прадзедаў, а і іх чыстыя душы, што пранеслі праз вякі вечныя ісціны: не забі, не ўкрадзі, працуй да поту, шануй старэйшых, сам будзь шчырым, сумленным і добрым чалавекам, любі ўсё жывое на зямлі...***

***Прапануем чытачам урыўкі з прац Адама Багдановіча — «Перажыткі старажытнага светапогляду беларусаў» (1895 г.) і «Мае ўспаміны» (надрукваны ў кнізе «Страницы из жизни М. Горького», Мн., 1965 г.) — пад агульнай назвай «Хлеб».***

Хлеб для беларуса — святыня. Яго прыгатаванне — сапраўднае свяшчэннадзейства (я гавару пра свой час). Рукі абавязкова мыюць да локцяў. Гэта рытуальнае абмыванне. Дзяжу-хлебніцу, перш чым уліць туды цёплай вады, каб растварыць рошчыну, абавязкова «жагнаюць» (хрысцяць); зрабіўшы раствор, таксама «жагнаюць»: абгладзіўшы паверхню цеста, перасякаюць яе глыбокім крыжам. Калі цеста надымецца, перад тым, як садзіць у добра напаленую печ, хлебную лапату звычайна насыпаюць мукой і, асцярожна ўзяўшы даволі вялікі камяк цеста, лёгенька яго акругляюць у руках, стараючыся не мяць, каб захаваць порыстасць, і, паклаўшы на лапату, складзенымі рукамі надаюць яму канчатковую форму — круглую або прадаўгаватую, як дзе павялося ў сям'і: на першым хлебе і на апошнім ставяць мезенцам лёгкі крыж. Летам і ўвосень замест падсыпкі мукой усцілаюць лапату кляновым або капусным лістом, які лёгка здымаецца, а яшчэ лепш свежым аерам. Гэта справа аматараў і знаўцаў: ніжняя скарынка, ачышчаная ад аеру, набывае адмысловы смак і пах. Мы, дзеці, асабліва за ёю ганяліся.

Апошні каравайчык бабуля ці маці рабілі малюсенькі і прыгожы. Гэта любоўны дар нецярплівым дзеткам. Яны раней за ўсіх маглі «паспытаць» свежай баханачкі, яшчэ гарачай, з духмянай парай. У дзяжы пакідаецца крыху перахрышчанага цеста на закваску.

Усё гэта традыцыі глыбокай даўніны, якія на працягу вякоў склаліся ў рытуал з усімі прыкметамі свяшчэннадзейства, якое выконваецца дамашняй жрыцай сямейнага ачага.

Так пяклі хлеб у нашай богабаязнай сям'і, але так яго пякуць і ва ўсіх сялянскіх прыстойных сем'ях.

Пашана да хлеба, як да святыні, — агульнае сярод беларусаў пачуццё і звычай. Раз хлеб на стале (абавязкова на настольніку або прыкрыты абрусам), то належыць наводзіць сябе сціпла, асабліва ўстрымлівацца ад брыдкіх слоў і праклёнаў.

Калі трэба што-небудзь перадаць непрыстойнае, то добра выхаваны беларус заўсёды апярэдзіць такое паведамленне або слова формулай: «Шануючы святых абразоў, шануючы гэтага святога хлеба» або «Не пры хлебе святым кажучы» і г.д., ужываючы падобныя пачцівыя моўныя звароты... («Мае ўспаміны»).

Шанаванне беларусамі хлеба выдатна ілюструецца наступным апавяданнем, шырока распаўсюджаным на Беларусі. Вось гэта апавяданне.

Адзін чалавек у час яды незнарок упусціў крошку хлеба. Спалохаўся ён, стаў яе шукаць. У гэты час яго гумно загарэлася. Бягуць суседзі, крычаць яму: «Гумно гарыць!» Ён спакойна працягвае шукаць згубленую крошку. Знайшоў, перапрасіў хлеб і, перахрысціўшыся, з глыбокай пашанай з'еў яго. Тады кінуўся гумно тушыць. Але ў той час, калі ён уміласціўліваў хлеб, гумно яго імгненна патухла.

Калі абнесці вакол палаючага дома хлеб, то агонь не будзе далей распаўсюджвацца, толькі трэба, каб хлеб захацеў гэтага. Іншыя, абнёсшы хлеб вакол дома, што гарыць, кідаюць яго ў агонь, спадзеючыся, што ад гэтага пажар спыніцца. Гэты звычай намякае на ахвяру агню; відаць, тут сіла не ў хлебе, як нам тлумачылі сяляне, а ў тым, каб уміласцівіць агонь.

Ва ўсіх сямейных урачыстасцях хлеб займае высокае месца, але гэтыя звычаі так распаўсюджаны і агульнавядомы, што не лічым патрэбным спыняцца на іх. Па хлебе прадракаюць лёс сям'і. Калі хлеб у печы разваліцца на дзве паловы — гэта не да дабра: памрэ або гаспадар, або гаспадыня. Калі ў мякішы акажацца вертыкальная трэшчына — гэта прадракае блізкі падзел сям'і; гарызантальная трэшчына — дакладная прыкмета, што або дачка выйдзе замуж, або сын пойдзе «ў прымы» (у чужую сям'ю) («Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў»).

## Народ не раствараецца ў народзе

*Мая ЛЬВОВІЧ*

* * *

**Сёння прысніўся сон мне**
**Зусім не аб тым, што сёння.**
**Таму — паўтысячы год.**
**Прыснілася, што са мною**
**Гаворыць маёю моваю**
**Мой народ.**
**Літоўскае Княства Вялікае.**
**У якім стагоддзі на Літве**
**Апынулася я?**
**Пяе мне яўрэйская кузня.**
**А мова яе — руская,**
**А мова — мая.**
**Мая, не чыясьці іншая.**
**Беларускую і ўкраінскую**
**Рускаю звалі калісь.**
**Яўрэйскі пяе агонь мне,**
**Пяюць яўрэйскія коні.**
**Руская мова звініць.**
**Ад продка татарам**
**Руская ў аль-кітабах**
**Пад арабскім прыходзіць пісьмом.**
**Нам было б апрануць — у гебрайскае.**
**Зналі б, чыя зберагláся,**
**Не цураліся б слоў-паслоў.**
**Кнігам нехта б, можа, паверыў.**
**Што і руская — мова яўрэяў.**
**Іхняй душы,**
**Уцеха ім і прытула.**
**Прыснілася: «Паратуй яе,**
**Дапамажы!»**
**На Літве ў рускай гучалі**
**Псалмоў Давідавых чары.**
**Таму паўтысячы год.**
**Прыснілася, што са мною**
**Гаворыць маёю моваю**
**Мой народ.**

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*

## У царкве

**Непагадзь. Слата і мокры снег.**
**Установы зачыняе горад.**
**І плыве марудна, нібы ў сне,**
**Неба карабель, цяжкі і мокры.**
**Пастаю за свечкамі ў чарзе,**
**На штуршкі штурхаць не пажадаю.**
**Хочуць у царкву змясціцца ўсе,**
**Бы ў каўчэг, што зараз адплывае.**
**Подыхі людскія, свечак дым,**
**Ладану пранізлівая нота...**
**Хто мы — тут? І на каго глядзім**
**У тумане незямной самоты?**
**Так было, напэўна, шмат разоў:**
**У прадонні буры — зграйка птушак,**
**І надзея, што чыясьці кроў**
**Выкупіць душу тваю ад сцюжы.**
**Не дастукацца сюды дажджу.**
**Паміраць — ці ратавацца ў кучы?**
**Свечцы проста ў вока я гляджу,**
**А яно міргае так сляпуча.**
**Можа быць, спагада і спакой**
**На мяне з Няведама пральецца...**
**Кожны застаецца сам сабой,**
**Як чарга — чаргою застаецца.**

*(Працяг. Пачатак у №№ 16—21).*

# Вольфганг ЛАНГЕ

# Дванаццаць вінаватых

Таўсцяк крыху нахіліўся наперад:

— Навошта ён вам?

— Ды так — службовая руціна.— Інспектар барабаніў пальцамі па бляшаным шчытку вакол піўнога крана.— Мы апытваем усіх, хто жыве каля рынку. Калі ж я атрымаю свае цыгары?

Гаспадар пакорпаўся ў скрынцы з цыгарамі.

— Сорак пфенігаў за штуку,— сказаў ён.— Пан Бесельман, між іншым, наведваўся ўжо. Мы нічога не чулі.

Інспектар паклаў на прылавак пяць марак.

— Няўжо? Але мы хочам пагаварыць з вашым сынам.

Пфаншміт даў інспектару рэшту і вялікім пальцам паказаў на дзверы «Залы нарад». Відаць, ён страціў усякі інтарэс да нас.

Мы пакінулі шклянкі на стойцы буфета, але, перш чым адчыніць дзверы, прыслухаліся да смеху і шуму ў зале. Потым увайшлі. Пад столлю плавалі густыя хмары тытунёвага дыму. За круглым сталом перад куфлямі піва сядзелі сем юнакоў. Трое гулялі ў скат, астатнія назіралі.

Калі юнакі ўбачылі нас, у памяшканні ўсталявалася мёртвая цішыня. Інспектар сунуў рукі ў кішэні і сказаў:

— Вітанне!

Я таксама паклаў рукі ў кішэні, але маўчаў. Фаўльхубер падцягнуў да сябе крэсла і сеў за стол. Я застаўся стаяць ля расчыненых дзвярэй.

— Мне вельмі шкада,— пачаў інспектар,— што даводзіцца турбаваць вас, панове, але вам, мабыць, вядома, што сёння ноччу ў Бюхельбургу ўкралі машыну. Яе вывелі з гаража ў пана Клейдэрэра і разбілі, наехаўшы на помнік. Мы хацелі б высветліць, хто гэта зрабіў. Магчыма, вы дасцё нам які намёк?

Хлопцы ўхмыляліся. Адзін з ігракоў кінуў на стол карту і сказаў:

— Козыр!

Яго партнёры пайшлі ў масць.

Фаўльхубер назіраў за гульнёй. Юнак, што сядзеў каля яго, велікадушна дазваляў яму заглядаць у карты. Інспектар матнуў галавой, калі хлопец хацеў скінуць туза. Абстаноўка была дружалюбнай. Але неўзабаве Фаўльхубер закрыў сваёй шырокай далонню апошнюю бітку і згроб да сябе ўсе тры карты. Хочаш не хочаш, юнакам давялося слухаць, што ён скажа,— з дваццаццю дзевяццю картамі гуляць у скат не будзеш.

— Дык вось што я вам скажу. Мне не хочацца падпяваць вашаму обер-вахмістру, які не вельмі добрае гаворыць пра вас. Вы атручваеце яму жыццё, вытвараючы сваімі матацыкламі такое, што чарцям моташна робіцца. Але гэта яго справа. Мяне толькі цікавіць крадзеж. Магчыма, вы не маеце да яго ніякага дачынення, але можа стацца і так, што вам захацелася паездзіць на аўтамашыне.

— Сказалі! — адазваўся хлопец, які крыху жмурыў вочы, ад чаго ён рабіўся падобны на саву.— Бесельман гэта ўсё на нас скідае! Любую гадасць. Ён аж скакаў бы ад радасці, каб усім людзям надзелі на ногі войлачныя шлёпанцы, а на галовы нахлабучылі начныя каўпакі. Але гэты раз яму не пашэнціла. Да клейдэрэрскай машыны мы не маем ніякага дачынення. Можа, вы нам штонебудзь дакажаце?

Інспектар пакруціў галавой:

— Мы ўсё высветлім. Я проста думаў, што вы нам трохі паможаце.

— Няма чым? Давайце-тка лепш, хлопцы, вып'ем піўка,— сказаў цыбаты бамбіза з рабацінністым носам і пачаў церці дном куфля па стале. Адразу ж з'явіўся шынкар.

Калі ён выйшаў, Фаўльхубер загаварыў зноў:

— Сёе-тое мы знайшлі. Нічога асаблівага, я б сказаў, калі б мы цвёрда не ўстанавілі, што гэтай штукай быў узламаны гараж,— інспектар паволі выцягнуў з рукава манціроўку і паклаў на стол.— Вы ведаеце, каму яна належыць?

Як загіпнатызаваныя, пазіралі хлопцы на манціровачны ломік. Юнак з савінымі вачамі ўсклікнуў:

— А што гэта за жалязяка такая?

Усе паднеслі куфлі да рота і пачалі піць піва вялікімі глыткамі, як сапраўдныя мужчыны.

— На вашым месцы, я не задаваў бы такіх дзіцячых пытанняў,— сказаў Фаўльхубер.— Гэта робіць на паліцыю не вельмі добрае ўражанне. Кожны, хто хоць крыху разбіраецца ў матацыклах, ведае, што гэта — манціроўка. Вы ж сёетое разумееце ў матацыклах, так?

— І што з таго?

— Я раблю вам прапанову. Вы паказваеце нам свой набор інструментаў, а я абяцаю вам, што, калі ў кожнага з вас будзе па дзве манціроўкі, справа на гэтым скончыцца. Мы праверым таксама і ўсіх астатніх жыхароў, у якіх ёсць матацыклы, каб вы не думалі, што мы толькі да вас прычапіліся. Але ж з кагосьці трэба пачынаць.

— Я сумняваюся, ці маеце вы права без усякіх цырымоній правяраць нашу ўласнасць. У вас, наогул, ёсць ордэр на вобыск?

— Ах ты, чорт вазьмі, нават з галавы выпусціў! — інспектар разгублена павярнуўся да мяне: — Зноў мы з вамі забыліся, што сучасная моладзь ведае ўсе правілы гульні ў дэмакратыю. Што ж цяпер загадаеце рабіць, пан калега?

— Магчыма, нам паможа обер-вахмістр,— сказаў я.— Надоечы ён гаварыў, што да яго паступіла скарга на матацыклістаў, якія знялі з машын глушыцелі. Як прадстаўнік мясцовых паліцэйскіх улад ён, безумоўна, ва ўсім разбярэцца. Думаю, мы пачакаем яго і папросім неадкладна заняцца праверкай скаргі аб парушэнні грамадскага парадку. Пры гэтым, вядома, перш за ўсё трэба часова канфіскаваць матацыклы, каб агледзець іх да апошняй шрубкі. Пры скрупулёзнасці пана Бесельмана гэта зацягнецца дні на тры-чатыры.

— Занадта доўга,— сказаў Фаўльхубер.— Але, як я пагляджу, іншага выйсця няма. Значыць, мы ўсе разам пачакаем тут пана Бесельмана. Піва хопіць на ўсіх. Можаце спакойна зачыніць дзверы, пан калега.

Я выканаў загад і прыперся спінай да дзвярэй. Гэту бітву мы выйгралі. Юнакі адразу ж прыціхлі. Нарэшце, адзін з іх, самы, здаецца, малады — хлопец гадоў семнаццаці — запытаў:

— А калі мы самі пакажам наш інструмент?

— Тады Бесельман, безумоўна, адтэрмінуе агляд матацыклаў,— сказаў я.

Першы ўстаў хлопец з вачыма, як у савы, і сказаў:

— Добра, выпусціце нас, і мы прынясём свае прылады.

Я не зварухнуўся з месца.

— Толькі па чарзе,— сказаў я.— Пачне нехта адзін. Астатнія пакуль што могуць сесці. Я буду суправаджаць вас, каб ніхто не ўцёк, а пан інспектар паклапоціцца, каб тут панаваў поўны парадак. Хто першы?

Хлопец памаргаў сваімі савінымі вачыма і накіраваўся да дзвярэй. Мы пайшлі міма скамянелага шынкара і па пяці-шасці прыступках спусціліся на рыначную плошчу. Маленькім ключыкам юнак адамкнуў інструментальную скрынку пакрытай чырвоным лакам «Хонды». Я выцягнуў свой блакнот, запытаў, як зваць хлопца, і насупраць аднаго з прозвішчаў, якія раней прадыктаваў мне Бесельман, напісаў нумар машыны. Потым мы пайшлі назад. Юнак размахваў парусінавым скруткам з інструментамі, як дзяўчынка-падлетак сваёй новенькай сумачкай.

Спектакль гэты паўтараўся яшчэ шэсць разоў. Нарэшце, усе зноў сядзелі за круглым сталом у «Зале нарад». Перад кожным юнаком ляжалі сумкі з інструментам. Настаў урачысты момант — як у калядную ноч, калі паслухмяныя дзеткі рыхтуюцца распакаваць свае падарункі. Мы з Фаўльхуберам пільным вокам, як Аргусы, сачылі за хлопцамі.

Адзін за адным яны раскрывалі свае сумкі. Манціровак было чатырнаццаць, і ўсе новенькія, з іголачкі! Інспектар аж засоп ад злосці:

— Вы ж купілі іх толькі сёння, чорт пабяры! Ану гаварыце, а то я зраблю з вас фарш!

— Гэта нашы манціроўкі. Цяпер, спадзяёмся, вы задаволены? — юнак з рабым носам усміхнуўся: — З вашага дазволу я вазьму карты, якія вы забралі ў нас. Дэтлеф, ход твой. Пан Пфаншміт, яшчэ па куфлю піва!

У гэты момант у залу ўварваўся Бесельман.

— Папаўся, паскуднік! — крыкнуў ён, ледзь пераводзячы дыханне, і шпурнуў на стол яшчэ адзін брэзентавы мяшочак.— Усе прылады брудныя і старыя, толькі манціроўкі новыя. Нэгерле толькі сёння купіў іх, гарантую! Пасля ўзлому гаража ён заўважыў, што адной не хапае, і хуценька купіў сабе парачку новенькіх. Гэта ён вінаваты, каб я не сышоў з гэтага месца. Трэба арыштаваць яго!

Фаўльхубер паволі пакруціў галавой. Ён адразу неяк асунуўся. Мусіць, ад таго, што нейкія маласосы паклалі яго на лапаткі.

— Ну пачакайце, гэта вам дарэмна не пройдзе! Мы яшчэ з вамі ўбачымся, панове, можаце паверыць майму слову.— Ён, як булавою, памахаў над галавой манціроўкай і шырокім крокам пайшоў да выхаду, не развітаўшыся з юнакамі і не зірнуўшы на шынкара, які ўсё стаяў ля стойкі.

Засунуўшы рукі ў кішэні, інспектар шпарка ішоў праз рынак. Мы беглі за ім, як паслушныя сабакі, і я расказаў Бесельману, што адбылося ў шынку. Той аж збялеў ад злосці. Калі мы дайшлі да сярэдзіны плошчы, я ўбачыў, што «мерседэса» ўжо не было. На месцы аварыі нейкі ссохлы чалавечак у шырачэзных штанах і з бела-чырвонай павязкай на рукаве змятаў у адно месца асколкі шкла. Інспектар спыніўся каля яго і пачаў корпацца наском чаравіка ў кучы асколкаў.

— Наш падмятальшчык вуліц,— шапнуў мне Бесельман.— Тратуары падмятаюць самі жыхары, а для вуліц і рынку горад трымае спецыяльнага чалавека.

Раптам інспектар рэзка нахіліўся і пачаў алоўкам калупацца ў бітым шкле. Я здзіўлена ўтаропіўся на яго. Калі ён выпрастаўся, у яго на далоні ляжаў маленькі кавалачак шкла.

— Як па-вашаму, што гэта? — гучна запытаў ён у мяне.

— Мізэрныя рэшткі аўтамабільнай фары.

— Папалі пальцам у неба! Гэта шкло ад акуляраў. Як зваць таго малойчыка, у якога твар, як у савы, бо ён увесь час жмурыць вочы?

— Фолькер Пфаншміт,— адказаў я.

— Сын шынкара,— дадаў Бесельман.

— Ну, цяпер ты не выкруцішся, фокуснік! Каб здагадацца, што ты носіш акуляры, неабавязкова трэба быць царом Саламонам. Штука гэта зляцела ў цябе з носа, калі ты грукнуўся машынай аб помнік. Запасных акуляраў у цябе няма, а новыя дастаць, на наша шчасце, не так лёгка, як манціровачны ломік. Якая майстэрня павезла машыну?

— «Кемпер і сын» з Ландау,— адказаў обер-вахмістр.

— Наперад! — крыкнуў Фаўльхубер.— Той, хто сядзеў за рулём, быў у акулярах і разбіў іх аб баранку. Калі і ў машыне мы знойдзем такія ж асколкі, злачынец у нас у руках!

Інспектар бегма кінуўся да нашай машыны, цягнучы мяне за сабой, і я нават не паспеў развітацца з мясцовай паліцыяй.

Праз тры чвэрці гадзіны машына наша спынілася перад варотамі рамонтнай майстэрні Кемпера ў Ландау.

Наступнай раніцай мы аж гарэлі на рабоце. Нібы ўзяліся высветліць, хто на самай справе забіў Джона Кенедзі. Я ніколі яшчэ не бачыў інспектара такім актыўным. Ён уручыў абодвум нашым лабарантам кавалачкі шкельцаў ад акуляраў, якія знайшоў на месцы аварыі і ў жалабках пластыкавага насцілу ў кабіне «мерседэса». Асколачкі былі маленькія, некаторыя — з драбінку, аднак усё ж іх можна было скласці разам, як у задачы-галаваломцы.

Спярша лабаранты ўсяляк ухіляліся ад задання. Але Фаўльхубер не адступаўся, і ім, нарэшце, прыйшлося ўзяцца за справу. Перш-наперш трэба было ўстанавіць, што гэта былі за шкельцы — дваякавыпуклыя, увагнутыя, перыскапічныя, цыліндрычныя, прызматычныя альбо якія-небудзь там яшчэ, а потым вызначыць велічыню дыяптрый. Праз тры гадзіны лабаранты паклалі нам на стол вынікі сваіх намаганняў. У знак удзячнасці Фаўльхубер прапанаваў ім парачку бюхельбургскіх цыгар. Лабаранты адмовіліся, аднак прынялі запрашэнне папіць з намі кавы, калі надарыцца вольная хвіліна.

З тые прычыны, што мы не ведалі, у якога оптыка былі зроблены акуляры Фолькера Пфаншміта, мы выпісалі з тэлефоннага даведніка ўсе нумары, якія цікавілі нас. У Ландау было сем аптычных майстэрань, а ў суседнім гарадку яшчэ пяць. У якім з іх заказаў свае акуляры злачынец? Можа, ні ў якім, а дзе-небудзь у Штутгарце, альбо ў Карлсруэ, ці яшчэ дзе. Мы селі на тэлефон і абзванілі ўсіх оптыкаў. Размова была кароткая, а часам і доўгая — у залежнасці ад таго, як хутка гаспадары майстэрань арыентаваліся ў сваіх рэгістрацыйных картках. Двое з іх наогул адмовіліся даць нам якую-небудзь інфармацыю, спасылаючыся на тое, што ім забаронена выдаваць урачэбную тайну. Мы прасілі, угаворвалі, загадвалі, але дарэмна. З перадапошнім мне, нарэшце, пашанцавала. Голас, як можна было меркаваць, належаў старому еўнуху. Праўда, бухгалтарскі ўлік ён вёў беззаганна і меў добрую памяць. Пасля таго як я яго крышачку настрашыў, ён прачытаў мне ўслых запіс на рэгістрацыйнай картачцы Фолькера Пфаншміта. Усё кропля ў кроплю сыходзілася з тым, што выявілі нашы спецыялісты. Паслужлівы мафусаіл расказаў мне, што пан Фолькер Пфаншміт учора наведаў яго і заказаў новыя акуляры. Я тройчы падзякаваў яму і папрасіў берагчы дакументацыю, бо, магчыма, ёю зацікавіцца пракурор.

Потым я запытаўся ў інспектара, ці трэба падрыхтаваць ордэр на арышт. Фаўльхубер адказаў, што з гэтым можна пачакаць. Малойчыка трэба яшчэ крыху прашчупаць, таму што Фолькер Пфаншміт, бясспрэчна, дзейнічаў не адзін. Інспектар быў перакананы, што яму памаглі яго сябрукі.

Я падумаў, што Фаўльхубер з вялікай бы ахвотай пасадзіў пад замок усіх васмярых. Відаць, ён рады быў паказаць, што з ім жарты кепскія. Таму на допыт у Ландау Пфаншміта павязе не Бесельман, а сам інспектар.

Была ўжо шостая гадзіна дня. Калі паспяшацца, можна было яшчэ застаць усю шайку ў «Залатым анёле».

Я націснуў на тормаз ля самага ўваходу ў заезны дом. Зноў стаяла спёка. На бруку ад будынкаў ляжалі доўгія цені, дах царквы дыхаў яшчэ гарачынёй. Але нам здалося, што гарадок неяк за дзень перамяніўся. Учора на нас амаль ніхто не звяртаў увагі, а цяпер людзі з цікавасцю глядзелі нам услед, не хаваючы сваіх позіркаў. Мы падняліся на ганак «Залатога анёла». Чырвонага плаката з белым кругам і трыма чорнымі літарамі на дзвярах не было.

*(Працяг будзе).*

# У тэрміналагічнай камісіі ТБМ

**Распачаў работу хімічны сектар. На арганізацыйным пасяджэнні 21 траўня сустрэліся прадстаўнікі груп з хімічнага факультэта БДУ і Беларускага тэхналагічнага інстытута пры ўдзеле кансультантаў-мовазнаўцаў.**

**Створана рабочая група, якая прыступіла да апрацоўкі тэрмінаў і ўкладання слоўніка. Пасяджэнні групы будуць праводзіцца рэгулярна. На наступным пасяджэнні 4 чэрвеня будуць разгледжаны назвы хімічных элементаў.**

**Тэрміналагічная камісія ТБМ запрашае ўсіх, хто займаецца распрацоўкамі ў галіне тэрміналогіі хіміі і іншых навук, наладзіць сувязь з групай. З пытаннямі і прапановамі звяртацца да каардынатара групы Аляксея Глушко (т. 31-90-88).**

# Беларускі народны каляндар

*Чэрвень* — месяц пераходны — ад вясны да лета, ад веснавых земляробчых работ да летніх. На яго прыпадае старажытнае свята славян — *Сёмуха,* звязанае з культам раслін, продкаў і шлюбу. У абрадавых сёмушных песнях, якія адносяцца да веснавога цыклу, дамінуюць матывы кахання, дзявочай долі і нядолі, што адпавядала свайму часу, бо пасля веснавых работ перад летнімі ў сем'ях земляробаў найчасцей ладзіліся вяселлі.

З культам продкаў і раслін генетычна звязаны старажытны веснавы абрад *куст,* што прымяркоўваўся да Сёмухі. Прыгожую дзяўчыну прыбіралі зялёным голлем, на галаву надзявалі вянок і вадзілі такі «куст» дзявочым «войскам» па хатах, славячы гаспадароў і атрымліваючы за гэта падарункі. Людзі верылі ў магічную сілу «куста», прасілі яго садзейнічаць шчасліваму шлюбу і багатаму плёну ў полі, каб радзіла «жыта, пшаніца і ўсякая пашніца».

Народная мудрасць прыраўноўвае летні дзень да тыдня і нават да года, дае маральную ацэнку гультаям ды дармаедам («летні дзень — за зімовы тыдзень», «хто ўлетку балюе, той узімку галадуе», «летам гуляўшы, восенню не сабярэш» і г. д.).

Народныя прыкметы: «калі камарна, то і хлебна», «сухое лета не высушыць, а мокрае вымачыць», «смірнае лета больш ураджайнае», «што летам нагой капнеш, тое зімой рукой хапнеш», «як асінка затрасецца, тады волік напасецца», «самае лёгкае не ёсць самае добрае».

3 (серада) *Алена.* Па народным календары — сяўба ільну.

4 (чацвер) *Ушэсце (Узнясенне панскае, гасподняе)* у праваслаўных. Саракавы дзень пасля Вялікадня, калі, паводле хрысціянскай легенды, Ісус Хрыстос узнёсся на неба.

5 (пятніца). Праваслаўныя адзначаюць дзень прападобнай *Еўфрасінні Полацкай.*

7 і 14 (нядзеля). *Сёмуха (Тройца, Зялёныя святкі. Спасланне духу святога).* Сёлета ў каталікоў святкуецца 7, а ў праваслаўных 14 чэрвеня. Свята прыйшло да нас з глыбіні вякоў — ад славян-язычнікаў. У культавую практыку праваслаўнай царквы ўведзена ў XIV ст. Сергіем Радaнежскім. Адзначаецца на сёмым тыдні пасля Вялікадня. Сёмуха святкуецца з «маем» у хаце: на вёсках сцелюць на падлогі аер, а вокны, дзверы і столь абтыкаюць галінкамі дрэў, часцей бяроз. На першы дзень свята асвячалі ў храмах лугавыя і палявыя зёлкі, пасля чаго лічылася, што яны набываюць магічную сілу. На другі і трэці дзень свята вяскоўцы і местачкоўцы з'язджаліся на фэсты і кірмашы. Моладзь збіралася разам. Гэта быў своеасаблівы парад жаніхоў і нявест, дзе знаёміліся, ладзілі сяброўства, выбіралі суджаных. Увечары ладзіліся гульні з карагодамі і танцамі, на якіх спяваліся абрадавыя песні.

## «Няхай родзіць жыта, пшаніца і ўсякая пашніца»

Ці ты бывала, Тройца, ці бывала?  
Ой, я ії, маладая, не ўгадала,  
Я і, маладая, не ўгадала...  
Я і, маладая, на вуліцы не бывала.  
Да й на вуліцы я не бывала,  
Эх, мяне мая мамачка не пушчала...  
А на вуліцы дымок ідзе,  
А там мой міленькі танок вядзе,  
А ў левай руцэ ён вянок нясе.

Першы пасля Сёмухі тыдзень — *Русальны тыдзень,* багаты на рытуальныя дзеянні і песні, цесна звязаны з павер'ямі пра русалак, аб чым піша ў сваіх «Перажытках старажытнага светапогляду беларусаў» А. Багдановіч: «...яны (русалкі) жывуць у вадзе толькі з восені да «русальнага тыдня» (першага пасля Тройцы). Тады яны выходзяць з вады і селяцца на галінах дрэў, асабліва на бярозах. Русалкі гайдаюцца на іх гнуткіх галінах і клічуць прахожых: «Чалавек, чалавек, хадзі гайдацца!» Калі хто здуру падыдзе да іх блізка, дык яны заказычуць яго да смерці.

Русалкі па ўяўленні беларусаў — прыгожыя жанчыны з распушчанымі доўгімі валасамі. Пакуль русалкі не выйдуць з вады, г. зн. да русальнага тыдня, лічыцца небяспечным купацца, таму што або хвароба якая надарыцца, або русалкі да сябе зацягнуць у глыбіню ракі і ўтопяць».

Абрадавыя дзеянні русальнага тыдня: выбіралі сярод дзяўчат русалку (адпаведна яе апраналі і прычэсвалі) або рабілі з саломы чучала русалкі, плялі вянкі — для сябе і для русалкі. Апошні плялі малы або вялікі, у залежнасці ад мясцовай традыцыі. Часам для русалкі рабілі некалькі вянкоў — на галаву, шыю і рукі. Пасля тыя вянкі разрываліся або цэлымі закідваліся на грады, «каб расла капуста добрая». З гэтай жа мэтай — паспрыяць ураджаю — завівалі галіны бярозы і іншых дрэў (на якіх нібыта сядзелі русалкі) «на гады добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты». Кульмінацыя абраду — провады русалкі з вёскі — у жыта або на могілкі. Вялі ў карагодзе, спявалі абрадавыя песні. Давёўшы русалку да месца, пакідалі яе там, а самі беглі як мага хутчэй дадому, «каб не злавіла».

Абрады русальнага тыдня ўзыходзяць да старажытнаславянскіх язычніцкіх ігрышчаў — «русаліі», звязаных з аграрнай магіяй. Тады людзі лічылі, што русалка — захавальніца ўрадлівасці, апякунка пладаноснай зямлі, распарадчыца воднай стыхіі.

13 (субота). *Траецкія (сёмушныя)* дзяды.

15 (панядзелак). *Дзень святога Духу* ў праваслаўных.

18 (чацвер). *Свята Божага цела* ў каталікоў: у праваслаўных *Дзевятнік,* або *Сухі чацвер.* У гэты дзень забаранялася працаваць, каб не было засухі ў полі.

21 (нядзеля). *Тадор* («на Тадора раса — каноплі паласа»).

22 (панядзелак). Пачатак посту ў праваслаўных перад святам апосталаў Пятра і Паўла, якое святкуецца 12 ліпеня («Пятроўка — самая галадоўка», «Хто ў Пятроўку сена не косіць, той у сабак сена просіць»).

25 (чацвер). *Ануфрый.* Пачатак ворыва пад грэчку.

26 (пятніца). *Акуліна-грачычніца.* Сеюць грэчку.

29 (нядзеля). *Свята апосталаў Пятра і Паўла* ў каталікоў.

Для чэрвеня характэрны моцныя вятры, град, ліўневыя дажджы.

# Майстры мастацтваў



Прыхільнікам беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва добра знаёмы імёны Валянціны Маркавец-Бартловай і Галіны Крываблоцкай. Іх габелены ўпрыгожваюць многія мастацкія выставы. Пры ўсёй розніцы выяўленчай манеры мастачак іх творчыя лёсы падобныя. Гэта і зразумела, бо яны ж сёстры.

**На здымку:** Галіна Пятроўна Крываблоцкая (злева) і Валянціна Пятроўна Маркавец-Бартлова ў майстэрні.

**Фота *Я.* КАЗЮЛІ.**

# Крыжаванка-пераклад



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Заведующий. 2. Холодный ветер. 3. Испокон веку. 4. Солгать. 7. Отказ. 9. Табачные. 10. Учитель. 12. Истлел, сгнил. 13. Оценённый. 18. Посторонний. 19. Прошлый. 20. Окрестность. 24. Горемыка. 25. Результат.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Молчаливый. 6. Метель. 8. Яловка (яловая корова). 11. Ячневые. 14. Наклон. 15. Снизить (скорость). 16. Знаток. 17. Ангелок. 21. Отмель, мель. 22. Квасцы. 23. Отвратительный. 26. Свадебные. 27. Уничтожать. 28. Сверкать.

## Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 20

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Абуджэнне. 2. Вылічыў. 3. Мовавед. 4. Гарапашны. 7. Багна. 8. Апёкі. 11. Апекавацъ. 12. Іншаземец. 18. Абыякавыя. 20. Узбраенне. 22. Абразіў. 23. Кубел. 24. Бляха. 25. Таропка.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Абрыс. 6. Гоман. 9. Адліга. 10. Прагал. 13. Спазнаў. 14. Дашчаны. 15. Скалець. 16. Прыклад. 17. Зважаць. 19. Схуднеў. 21. Сцяжына. 25. Тубылец. 26. Балазе. 27. Хлопец. 28. Вылік. 29. Акунь.

Падрыхтавала  
Людміла ШНІП.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асоб як на Беларусі, так і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.**  
**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку.**



Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.



МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7152 паасобнікаў. Зак. 1180. Індэкс 63865.